Учора першы беларускамоўны ўніверсітэт імя Ніла Гілевіча атрымаў юрыдычны адрас – Мінск, вуліца Шчарбакова, 32.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 77 (4329)**

28 верасня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ВЯЛІКАЯ ПАЛІТЫКА

## Душанбэ прымае вышэйшых кіраўнікоў краін СНД

*Учора вялі дыялог міністры замежных спраў. Беларусь прадстаўляў **Уладзімір Макей**. У сваёй прамове ён звярнуў увагу на пытанні, звязаныя з адаптацыяй краін СНД да сучасных сусветных рэалій. Сёння ў Душанбэ сваё меркаванне выкажуць першыя асобы дзяржаў СНД. Можна не сумнявацца: **Аляксандр Лукашэнка** знойдзе што сказаць...*

ЭШАЛОНЫ ЎЛАДЫ

## Сяргея Румаса ацэняць дэпутаты



*5 кастрычніка Палата прадстаўнікоў разгледзіць пытанне аб дачы згоды на прызначэнне Сяргея Румаса прэм'ер-міністрам. Пра гэта распавёў кіраўнік Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Андрэйчанка.*

Мяркуючы па ўсім, сюрпрызаў не прадбачыцца – кандыдатуру цяперашняга прэм'ер-міністра дэпутаты ўхваляць аднагалосна.

Паводле слоў Андрэйчанкі, дэпутаты маюць намер уважліва вывучыць праграму дзейнасці абноўленага ўрада: *«Яна актыўна абмяркоўваецца ва ўрадзе, і, думаю, у другой палове кастрычніка мы атрымаем яе ў рабочым парадку для вывучэння і прапрацоўкі ў пастаянных камісіях*, - гаворыць Андрэйчанка. – *Дэпутацкаму корпусу варта самым уважлівым чынам разгледзець палажэнні праграмы, перш за ўсё праз прызму мэт і задач пяцігадовага плана развіцця краіны, стварэння спрыяльных умоў для фарміравання новых галін эканомікі, падтрымкі малога і сярэдняга бізнесу. Прапанаваныя ўрадам меры павінны грунтавацца на рэальным аналізе сітуацыі, насіць канкрэтны характар»*.

САЛІДАРНАСЦЬ

## Алега Сянцова падтрымаюць у Магілёве

*У Магілёве ў дзень прыезду Пуціна хочуць правесці пікет у падтрымку Алега Сянцова. Праваабаронцы Аляксей Колчын і Аляксандр Буракоў 26 верасня накіравалі ў гарвыканкам заяўку на правядзенне пікета салідарнасці з Алегам Сянцовым – асуджаным у Расіі ўкраінскім кінарэжысёрам.*

Пікет плануецца правесці 11 кастрычніка – у дзень прыезду ў Магілёў прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна, які возьме ўдзел у беларуска-расійскім Форуме рэгіёнаў.

Паводле слоў Буракова, пікет у падтрымку Сянцова – гэта справа гонару для праваабаронцаў: *«Мне катэгарычна не падабаецца, што прыезд Пуціна ўспрымаюць у Магілёве як візіт суперзоркі. Пакуль яго тут будуць радасна вітаць і паслужліва паказваць горад, у расійскай калоніі пакутуе невінаваты чалавек, якога пасадзілі толькі за тое, што ён хацеў тэрытарыяльнага адзінства для сваёй краіны»*.

АФІЦЫЙНА

## КДБ: Гэта затрыманне да «справы медыкаў» дачынення не мае



*Учора стала вядома, што Галоўным упраўленнем па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй МУС Беларусі затрымана начальнік упраўлення фармацэўтычнай інспекцыі і арганізацыі лекавага забеспячэння Міністэрства аховы здароўя **Людміла Равуцкая** (на фота).*

Як ужо стала звычайным для Беларусі, затрымана чыноўніца па падазрэнні ў атрыманні хабару, у дачыненні да яе распачата крымінальная справа.

Некаторыя, праўда, паспяшаліся звязаць гэтае затрыманне з так званай «справай медыкаў», якую вядзе КДБ Беларусі. Як вядома, яшчэ ў чэрвені Камітэт дзяржаўнай бяспекі абвясціў, што выкрыў маштабную карупцыйную схему ў сферы аховы здароўя, якая тычыцца закупак медыцынскага абсталявання і лекаў, па справе затрыманы некалькі дзясяткаў чалавек. У іх лік трапілі чыноўнікі, з якімі, безумоўна, у працэсе сваёй работы кантактавала Людміла Равуцкая. Гэта і ўжо былы намеснік міністра аховы здароўя **Ігар Ласіцкі**, і экс-старшыня «Белфармацыі» **Вячаслаў Гніцій**, і былы дырэктар «Белмедтэхнікі» **Аляксандр Шарак,** і іншыя.

Аднак у КДБ Беларусі «Народнай Волі» заявілі, што затрыманне начальніка ўпраўлення фармацэўтычнай інспекцыі і арганізацыі лекавага забеспячэння Міністэрства аховы здароўя да «справы медыкаў» дачынення не мае. «*Гэта затрыманне не звязана з тым расследаваннем, якое вядзе Камітэт дзяржаўнай бяспекі*», – заявіў «Народнай Волі» афіцыйны прадстаўнік КДБ **Андрэй Яраш**.

Дарэчы, ніякіх новых падрабязнасцяў па «справе медыкаў», напрыклад, ці скончана расследаванне ў дачыненні да некаторых падазроных, калі справы будуць перададзены ў суд, прадстаўнік КДБ не паведаміў. «*Пакуль без каментарыяў*», – сказаў Андрэй Яраш.

Што тычыцца затрымання Людмілы Равуцкай, то сярод фармацэўтычнай супольнасці гэтая інфармацыя выклікала як мінімум здзіўленне. Прадпрымальнік, які меў дачыненне да Асацыяцыі міжнародных фармацэўтычных вытворцаў, сказаў «Народнай Волі» наступнае: «*Людміла Андрэеўна спецыяліст вышэйшага класа. Здаецца, яна кіруе ўпраўленнем столькі, колькі існуе Міністэрства аховы здароўя незалежнай Беларусі. Да яе меркавання заўсёды прыслухоўваліся, давяралі ацэнкам, якія яна давала. Гэта затрыманне выклікае толькі здзіўленне...*»

У Міністэрстве аховы здароўя пакуль ніякіх каментарыяў не даюць. Цікава, што мабільны тэлефон Людмілы Равуцкай учора не быў выключаны: ішлі доўгія гудкі, але трубку ніхто не здымаў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

СКАЗАНА!

### Юрый БОНДАР, міністр культуры:

## «Гэта гістарычная падзея!»

*Так сказаў міністр культуры, прадстаўляючы ўчора Валянціна Елізар'ева калектыву Вялікага тэатра.*

Разам з харэографам і міністрам на сцэну, якая была ўпрыгожана ліловай заслонай з залатымі каралеўскімі лілеямі, падняўся і генеральны дырэктар тэатра Уладзімір Грыдзюшка.

"*Сёння гістарычная падзея ў жыцці галоўнага тэатра краіны – прызначэнне Валянціна Мікалаевіча Елізар'ева на пасаду мастацкага кіраўніка Вялікага тэатра*, – сказаў міністр. – *Мы выдатна ведаем гісторыю, так атрымалася, што Валянцін Мікалаевіч адсутнічаў тут амаль 10 гадоў. Але тым не менш ён вяртаецца, і гэта радасная падзея...*"

**(Працяг тэмы – на 6-й старонцы.)**

АКЦЫЯ

## Валерый Шчукін прайшоў з паломнікамі 16 кіламетраў

*Такім чынам 76-гадовы праваабаронца вырашыў падтрымаць "Матчын Рух 328".*

Нагадаем, што ў "Матчын рух 328" уваходзяць маці дзяцей, якія асуджаны па артыкуле 328 Крымінальнага кодэкса ("незаконны абарот наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх прэкурсораў і аналагаў"). Яны змагаюцца за змякчэнне пакарання для тых, у каго знайшлі наркотыкі, – зараз іх асуджаюць як распаўсюджвальнікаў.

Не выключана, што актыўнасць гэтых жанчын дала плён, бо Генпракуратура пайшла на невялікія саступкі, заявіўшы, што па некаторых частках артыкула 328 пакаранне будзе зніжана.

"*Днямі і я вырашыў падтрымаць "Матчын Рух 328" і адправіўся разам з жанчынамі ў паломніцкі тур*, – распавёў **Валерый Шчукін**. – *Ішлі з Мінска ад Храма Нараджэння Хрыстова да Мар'інай Горкі – у Храм Аляксандра Неўскага. Са сталіцы выйшлі 15 чалавек, але па дарозе да нас далучаліся іншыя, і ў Мар'іну Горку паломнікаў прыйшло ў два разы больш*".

76-гадовы праваабаронца кажа, што ўзрост не дазволіў яму прайсці ўвесь шлях да Мар'інай Горкі – гэта больш за 60 кіламетраў.



"*У першы дзень прайшоў 7 кіламетраў, а далей мяне везлі на машыне*, – кажа Валерый Шчукін. – *На другі дзень адолеў яшчэ 9 кіламетраў. Праўда, у царкве пасля гэтага ўжо стаяць не мог. А жанчыны маліліся за сваіх дзяцей, за змены ў заканадаўстве "наркатычнага" артыкула. Маліліся за тое, што ім баліць...*"

**Віктар ШПАК.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Станислав Шушкевич перенес инфаркт

*И после шести дней интенсивной терапии в РНПЦ «Кардиология» полетел в Корею.*

– Оказывается, я перенес инфаркт на ногах, – *рассказал Станислав Шушкевич «Народной Воле»*. – И те медики, у которых я наблюдался в «лечкомиссии», его не заметили. Но мне повезло – я попал к хорошим докторам в кардиологический центр. И они очень интенсивно меня лечили. Одна капельница длилась семь с половиной часов, представляете, что это такое?

**– С трудом…**

– А я принял шесть таких…

Очень хороший врач у меня оказался. Такой требовательный, не допускал никаких фокусов с моей стороны! Например, я очень не люблю и не хотел глотать зонд, так доктор мне сказал коротко и ясно: «Не хотите лечиться – нечего сюда переться!» Ну и пришлось глотнуть – а что делать?..

Я почувствовал, что работают профессионалы, я очень благодарен докторам РНПЦ «Кардиология»… Не хочу называть фамилий, потому что боюсь кого-то не упомянуть и обидеть. Благодарен всем врачам РНПЦ «Кардиология», которые меня лечили!

Но эти длительные капельницы для меня были хуже, чем перелет из Москвы в Сеул, который длится восемь часов. На борту самолета тебя кормят, обхаживают, ты можешь вздремнуть…

**– А врач был не против, чтобы вы летели в Корею сразу после больничной койки?**

– Он предупредил: если ваши показатели здоровья будут в норме, то я скажу, что можно лететь. Если нет – то нет. А дальше – ваше дело, какое решение принять. Но он дал добро на перелет.

**– И за сколько вас на ноги поставили?**

– За шесть суток. К счастью, обошлось без реанимации.



**– А вы совсем инфаркта не почувствовали? Не болело ничего?**

– Когда я приехал в РНПЦ на консультацию и доктор взглянул на мою кардиограмму, он сразу спросил: когда вы перенесли инфаркт? И это было сказано так, что я сделал вывод, что любой дурак, посмотрев мою кардиограмму, увидел бы там инфаркт. Но оказалось, что врачи нового шикарного государственного медицинского центра, где я обслуживаюсь, его не увидели…

Врачи сказали, как мне себя теперь вести, выписали рекомендации, лекарства, дали эпикриз на руки. Повторюсь, я им очень признателен!

**– Инфаркт у вас был первый?**

– Да, тьфу-тьфу, чтобы второй не накликать.

**– А в Корею вы летали на международный форум бывших президентов?**

– Я был на научно-практической конференции на фирме «Самсунг», нас очень хорошо там принимали в центральном офисе. Было много разных мероприятий, я во всех очень активно участвовал. Было много бывших президентов, премьер-министров и председателей Верховных судов стран Европы и бывшего СНГ.

Меня уже на протяжении 26 лет каждый год приглашают с докладом на конференцию по объединению Кореи. И мне кажется, я уже начинаю в этом что-то понимать.

**– Все расходы оплачивает принимающая сторона?**

– Понимаете, за счет своей пенсии я не могу даже все необходимые лекарства приобрести! Тем более что я перестал читать курсы лекций в зарубежных вузах – здоровье подводит. Честно говоря, прочесть курс лекций – это гораздо труднее, чем слетать в Сеул и обратно.

**– Обратный полет нормально перенесли?**

– Как развлечение! Я же очень много летал, восемь лет был сенатором «Люфтганзы»! А чтобы сохранять этот статус, нужно как минимум сто тысяч миль в год иметь налета!

**– А что дает этот сенаторский статус?**

– Очень много различных преимуществ. Но я ими так и не воспользовался, поскольку меня немного прижало. Хотя мог три раза бесплатно слетать в Австралию и обратно.

**– Станислав Станиславович, а как супруга отреагировала, когда узнала, что у вас инфаркт?**

– Она у меня кандидат физико-математических наук, но в последнее время, мне кажется, уже и в медицине стала неплохо разбираться. Контролирует меня жестче, чем самый строгий доктор! И заставляет меня очень многое выполнять. И я не сопротивляюсь…

**Марина КОКТЫШ.**

ВЕДАЙ НАШЫХ!

## Арыну Сабаленка не спыніць?

*Беларуская тэнісістка ўжо дайшла да паўфіналу на турніры з прызавым фондам 2 мільёны 700 тысяч долараў.*

Учора ў кітайскім Ухані Арына практычна без праблем перамагла славачку **Даменіку Цыбулкаву** – 7:5, 6:3, а сёння ў паўфінале згуляе з аўстралійкай **Эшлі Барці**. На пачатку гэтага года тэнісісткі ўжо сустракаліся, і тады перамогу святкавала аўстралійка.

Таму сёння ў Сабаленка не толькі магчымасць аддаць доўг Барці, але і добры шанц папоўніць уласны бюджэт. Прызавы фонд турніру дастаткова вялікі.



**Алесь СІВЫ.**

РЕЗОНАНС

## Курманбек Бакиев владеет сотнями миллионов долларов?

*Семья бывшего президента Кыргызстана Курманбека Бакиева (на фото) вывела из страны от 200 до 300 миллионов долларов. Об этом в интервью «Азаттыку» сообщил бывший финансовый советник семьи Бакиевых Евгений Гуревич.*

Гуревич считает, что прокуратура Кыргызстана сначала заинтересовалась темой, но затем по неясной причине потеряла к ней интерес. Представители прокуратуры Киргизии приезжали к нему в тюрьму в Алабаму в 2015 году, два дня беседовали с ним о выводе денег, однако до предъявления доказательств дело не дошло.

По словам же генпрокурора Кыргызстана Откурбека Жамшитова, условием предоставления конкретной информации Гуревич выставил пересмотр его дел, по которым он был заочно осужден в общей сложности на 25 лет лишения свободы.

25 июля 2014 года экс-президент Кыргызстана Курманбек Бакиев был приговорен к пожизненному заключению за организацию массового убийства 7 апреля 2010 года. В Минск неоднократно приходили запросы с требованием выдать беглого экс-президента для того, чтобы он предстал перед киргизским правосудием.

Паспорт гражданина Беларуси Курманбеку Бакиеву выдали в августе 2010 года. Бакиев говорил, что с 2010 года является гражданином Беларуси и потому считает невозможной свою экстрадицию в Бишкек, как требует нынешняя официальная власть Кыргызстана – экс-президент объявлен в международный розыск, так как он обвиняется в ряде преступлений, в частности в соучастии в убийстве мирных граждан, а также в злоупотреблении должностными полномочиями.

**Катерина МИХАЙЛОВА.**



СУПРАЦЬСТАЯННЕ

# У Ніны Багінскай дзяржава забірае палову пенсіі

*Пенсіянерку працягваюць штрафаваць за ўдзел у акцыях.*

72-гадовая **Ніна Багінская** рэгулярна выходзіць на рознага кшталту акцыі пратэсту, праводзіць адзіночныя пікеты і ўдзельнічае ў абароне Курапатаў. Міліцыя кваліфікуе гэта як несанкцыянаваныя мерапрыемствы, і ўжо працяглы час выпісвае жанчыне сталага веку вялікія штрафы, якія ў агульнай суме дасягнулі ўжо фантастычных для пенсіянеркі памераў.

*"Я займаюся толькі прыкладнымі падлікамі, і калі яны правільныя, то толькі ў мінулым годзе мне выпісалі штрафаў прыкладна на 35 тысяч рублёў (каля 17.500 долараў)*, – кажа жанчына. – *А ў гэтым годзе ў асноўным штрафуюць за абарону Курапатаў – выпісваюць ад 30 да 50 базавых велічынь. Таму некалькі тысяч долараў, відаць, ужо таксама назбіралася".*



Са слоў Ніны Багінскай, яна не аплачвае гэтыя штрафы прынцыпова, бо не лічыць, што робіць нешта супрацьзаконнае.

*"Калі сталая жанчына выходзіць на вуліцу з бел-чырвона-белым сцягам – гэта злачынства?* – задаецца пытаннем Ніна Рыгораўна. – *Таму не плаціла і не збіраюся гэта рабіць. Але, каб хоць нейкім чынам спагнаць з мяне штрафы, з кастрычніка мінулага года кожны месяц дзяржава забірае ў мяне 50 працэнтаў пенсіі. У выніку на рукі атрымліваю толькі 160 рублёў. І штрафы мне выпісваюць значна хутчэй, чым я паспяваю іх кампенсаваць са сваёй невялікай пенсіі".*

Смалявіцкі аддзел прымусовага пакарання справаздаваў таксама прадаць лецішча пенсіянеркі, але на аўкцыёны не прыйшоў ніводны пакупнік.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СУД!

# Экс-кіраўніку выдавецтва Экзархата далі 7 гадоў калоніі, хоць мітрапаліт Павел прасіў адпусціць яго на волю

Уладзіміра Грозава прызналі вінаватым у тым, што ён скраў у царквы два мільярды рублёў. За экс-кіраўніка выдавецтва Экзархата падчас судовага пасяджэння заступіўся мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі, Патрыяршы Экзарх усёй Беларусі Павел. Ён прасіў спыніць крымінальную справу, а самога Уладзіміра Грозава вызваліць з-пад варты.

На абвяшчэнне прысуду прыйшлі блізкія і родныя Грозава, вольных месцаў у зале амаль не было. Сам абвінавачаны трымаўся ўпэўнена, часам усміхаўся – і гэта нягледзячы на тое, што напярэдадні пракурор папрасіў пакарання Уладзіміру Грозаву ў выглядзе 8 гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці.

Суд Заводскага раёна Мінска ў выніку прызнаў Грозава вінаватым па ч.4 арт.209 КК (махлярства ў асабліва буйным памеры), ч.2 арт. 231 (Ухіленне ад выплаты мытных плацяжоў), ч.2, 3 арт.426 (Перавышэнне службовых паўнамоцтваў) і прысудзіў да сямі гадоў пазбаўлення волі.

Уладзіміра Грозава затрымалі на мяжы ў снежні 2016 года, калі ён хацеў з'ехаць з краіны. Грозаў – былы сілавік, 16 гадоў праслужыў у царкве, а затым яго абвінавацілі ў крадзяжы грашовых сродкаў. Праваслаўная царква выставіла яму іск у 750 тысяч долараў, але ў першы ж дзень суда адмовілася ад яго.

– Я верай і праўдай служыў Беларускай праваслаўнай царкве. І дзейнічаў толькі з благаслення і распараджэння царквы, усе дзеянні вырваны з кантэксту. Высокі суд, у 2010 годзе прэзідэнт уручыў мне ўзнагароду «За духоўнае адраджэнне». На жаль, са зменай Экзархата знайшліся людзі, якія выставілі маю дзейнасць як непаразуменне. Гэтыя людзі ўжо не працуюць у БПЦ. Мне ставілі ў віну 17 артыкулаў, яны адпалі, потым прыляпіліся, – заявіў Грозаў падчас працэсу і не прызнаваў сваёй віны.

Следства налічыла ўрон у 12 мільярдаў, але падчас судовага працэсу пракуроры прад'явілі новае абвінавачванне. З яго знік арт.210 «Крадзеж у асабліва буйным памеры» і з'явіўся арт.209 «Махлярства», а нанесеная шкода была паніжана з 12 мільярдаў да двух.

– Выглядаю як прыватны жулік, – так пракаментаваў Грозаў новае абвінавачванне і зноў паўтарыў, што ні ў чым не вінаваты.

Каб абараніць экс-кіраўніка выдавецтва Экзархата, у судзе ў якасці сведкі з'явіўся мітрапаліт Мінскі і Заслаўскі Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Павел.

– Сёння я ўсё гэта ацэньваю зусім па-іншаму… Сёння я разумею, што ўсе, хто супраць яго пісаў, гэта былі зайздроснікі, – казаў ён тады.

Прысуд не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны.

**Кацярына БАРЫСЕВІЧ.** *(Tut.by.)*

ПОЗДРАВЛЯЕМ!

# Мечиславу Грибу – 80 лет!



25 сентября 1938 г. в деревне Савичи Дятловского района Гродненской области родился Мечислав Иванович Гриб.

С 1959 года М.И. Гриб – на службе в органах внутренних дел. В 1986 году он уже генерал-майор, начальник управления внутренних дел Витебского облисполкома.

В 1990 году Мечислав Иванович стал депутатом Верховного Совета 12-го созыва, председателем постоянной комиссии по вопросам национальной безопасности, обороны и борьбы с преступностью, членом Президиума Верховного Совета.

С 28 января 1994 г. М.И. Гриб – председатель Верховного Совета Республики Беларусь. В этой должности он 15 марта 1994 г. подписал Конституцию страны.

Это краткие штрихи биографии Мечислава Ивановича Гриба. Еще он – Заслуженный юрист Республики Беларусь, член ЦК Белорусской социал-демократической партии (Грамада). После внезапной кончины Д.Карпенко он возглавил неформальный теневой кабинет политической оппозиции «Национальный исполнительный комитет».

М.И. Гриб не боялся трудностей и опасностей. После назначения на должность «главного милиционера» Витебской области возглавил группу по поиску сексуального маньяка-убийцы и в конце концов раскрыл это серийное преступление. В 2006 году он руководил избирательным штабом кандидата в президенты от БСДП (Грамада) Александра Козулина и вместе со своими сподвижниками прошел через многие испытания.

Я лично знаком с Мечиславом Ивановичем еще со времен работы в Конституционном суде и хотел бы отметить некоторые моменты, которые запомнились. Первое: храню как бесценную реликвию экземпляр Конституции 1994 г. с автографом М.И. Гриба. С тех пор остался верен этой Конституции и своей Присяге, произнесенной с трибуны Верховного Совета. Второе: подтверждаю, что М.И. Гриб до последних дней на посту председателя Верховного Совета отстаивал принцип законности. В частности, он направил в Конституционный суд порядка 20 предложений о проверке президентских указов. Правда, суд проявлял нерешительность и откладывал эти предложения в «долгий ящик».

Третье: мне довелось общаться с М.И. Грибом в зарубежных поездках, на конференциях, в личных беседах, и я убедился в том, что это – человек с большими умственными задатками, с положительными качествами и огромной силой воли. Он многое пережил на своем пути, В этом году перенес несколько сложных операций. И, несмотря на все трудности, он – в строю и в хорошей форме.

В эти сентябрьские дни хочется пожелать Мечиславу Ивановичу крепкого здоровья, хорошего настроения, новых свершений и долголетия! У нас впереди еще много дел, и ваш опыт и советы пригодятся при обустройстве новой Беларуси.

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**судья Конституционного суда Республики Беларусь первого состава (апрель 1994 – январь 1997 гг.)**

СІТУАЦЫЯ

# Без роднага кута…

*Гэта гісторыя пра гродзенца, які нарадзіўся і пражыў больш за 50 гадоў у прыватнай хаце над Нёманам, а зараз застаўся без жылля і ездзіць на заробкі за мяжу, бо не мае куды вярнуцца.*

## Спадчына з 1880 года

Ігар Шэшка нарадзіўся ў 1967 годзе і дагэтуль зарэгістраваны ў Гродне па адрасе: вуліца Мелавыя горы, 14. Дом, дзе ён нарадзіўся і вырас, быў пабудаваны ў 1880 годзе, і да 1991 года лічыўся на балансе Гродзенскага лясгаса. Гэта была звычайная драўляная хата без выгод, але стаяла яна над Нёманам у прыгожым месцы, у двары знаходзіліся гаспадарчыя пабудовы і невялікі ахайна дагледжаны гародчык з гароднінай і садавінай. Тут ён жыў спачатку са сваімі маці, бабуляй і братам, потым толькі з маці, а яшчэ пазней адзін.

У 1991 годзе Гродзенскі лясгас бязвыплатна перадаў дом Ігару Шэшку, паколькі будынак знаходзіўся *"ў стане нулявога рэштакавага кошту"*. У 1996 годзе ўжо сам спадар Ігар звярнуўся ў "Гроднаграмадзянпраект" з просьбай распрацаваць праектную дакументацыю на падвядзенне ў дом вады і каналізацыі. І яна была распрацавана, дакументы дагэтуль знаходзяцца ў гаспадара.

У 2010 годзе Ігар Шэшка атрымаў на рукі ведамасць тэхнічных характарыстык домаўладання, якая была складзена спецыялістам Гродзенскага агенцтва па дзяржаўнай рэгістрацыі і зямельным кадастры. У ёй дакладна апісваўся стан дома і гаспадарчых забудоў.

Аднак драўляная хата 1880 года пабудовы, якую бязвыплатна перадаў лясгас Шэшку, была не проста старой, але пажаранебяспечнай, патрабавала капітальнага рамонту. Як працуючы знесці і збудаваць на гэтым месцы новую, але сродкаў на гэта папросту не было.

У 1998 годзе адзін з гаспадарчых будынкаў – былы хлеў – давялося пераабсталяваць у летнюю кухню. Гаспадар умацаваў фундамент, сцены, дах, сюды была падведзена вада. Урэшце ў гэты будынак можна было перабрацца і жыць.

Аднак толькі ў 2013 годзе, гэта значыць праз 15 гадоў пасля таго, як хлеў перапрацавалі ў летнюю кухню, Шэшка атрымаў на рукі дакумент, які пацвярджаў ягоныя правы на ўладанне домам, перададзеным яму ва ўласнасць Гродзенскім лясгасам.

У 2014 годзе мясцовыя ўлады афіцыйна замацавалі за Ігарам Шэшкам у пажыццёвае валоданне зямельны надзел плошчай 0,1500 га для абслугоўвання домаўладання. Гарвыканкам, які выдаў Шэшку гэтую паперу, не мог не ведаць тады, што дом 1880 года пабудовы знаходзіцца ў аварыйным стане, а летняя кухня – гэта паўнавартасны будынак, уцеплены, з дахам, падведзенай вадой.

## Браць крэдыт і будавацца

У 2015 годзе Ігар Шэшка звярнуўся з заявай у адміністрацыю Ленінскага раёна Гродна з тым, каб яму дазволілі давесці летнюю кухню да стану жылога памяшкання і аформіць усе неабходныя дакументы на гэтую забудову як на жылы дом, а драўляны дом 1880 года, які знаходзіўся ў аварыйным стане, знесці.

У выпадку адмовы Шэшка прапанаваў уладам, паколькі дом 1880 года быў непрыдатны для жылля, прадаставіць яму кватэру ўзамен на домаўладанне.

Нягледзячы на мэтазгоднасць просьбы, адміністрацыя Ленінскага раёна не дазволіла Шэшку давесці летнюю кухню да стану жылога памяшкання, а стары пажаранебяспечны дом 1880 года знесці.

Незадаволеная засталася і другая просьба: выдзеліць кватэру замест домаўладання. І пры гэтым адміністрацыяй не быў узяты пад увагу той факт, што ніякага іншага жылля, акрамя дома 1880 года пабудовы, які знаходзіўся ў аварыйным стане, Шэшка не мае.

А яшчэ ў адказе з адміністрацыі Ленінскага раёна сцвярджалася, што на зямельным участку, які належыць Шэшку, ім жа *"самавольна распачата будаўніцтва з газасілікатных блокаў"*. Перароблены пад летнюю кухню хлеў чыноўнікі палічылі самабудам.

Адзінае, чаго не было ў адказе ад чыноўнікаў, – тлумачэння, дзе і як жыць Шэшку, калі дом, якому ледзь не паўтара стагоддзя, у аварыйным стане, а летнюю кухню нельга давесці да стану жылёвага памяшкання і зарэгістраваць. Праўда, трохі пазней з адміністрацыі прыйшоў яшчэ адзін ліст, у якім Шэшку інфармавалі, якім чынам можна атрымаць дзяржпадтрымку ў выглядзе льготнага крэдытавання на набыццё кватэры, будаўніцтва якой вядзецца па дзяржзаказе. Такім чынам, адміністрацыя Ленінскага раёна па сутнасці прапаноўвала аддаць ёй прыватнае домаўладанне над Нёманам бясплатна, а ўладальніку браць крэдыт і будавацца.



2016 год: за старой хатай – дыхтоўная летняя кухня.



2018 год: тое, што засталося ад роднага кута.

## Паўторныя просьбы засталіся незадаволенымі

Шэшка паўторна звярнуўся ў адміністрацыю Ленінскага раёна, з тым каб была задаволена яго ранейшая просьба: дазволіць давесці летнюю кухню да стану жылога памяшкання і аформіць усе неабходныя дакументы на гэтую забудову як на жылы дом, а драўляны дом 1880 года пабудовы, які знаходзіўся ў аварыйным стане, знесці альбо прадаставіць яму кватэру ўзамен на домаўладанне. Паўторная просьба зноў засталася незадаволенай.

Праўда, гэтым разам чыноўнікі дапісалі, што Шэшка мае права выконваць рамонтныя работы свайго дома, з тым каб ён адпавядаў нормам тыпавых спажывецкіх якасцяў. Але, паводле слоў гаспадара домаўладання, такі адказ выглядаў папросту здзекам з яго, паколькі чыноўнікам адпачатку было зразумела, што дом, пабудаваны ў 1880 годзе, рамонту не падлягае.

З чарговай скаргай Шэшка звярнуўся ў Гродзенскі гарвыканкам, але і адказ гарадскіх улад нічым не адрозніваўся ад таго, што яму напісалі з адміністрацыі Ленінскага раёна. У дадатак чыноўнікі Гродзенскага гарвыканкама загадалі чыноўнікам адміністрацыі Ленінскага раёна разабраць самавольна ўзведзеную пабудову і ў тэрмін паведаміць аб выкананні.

## Суд заняў бок гродзенскіх чыноўнікаў

У гэты час, не маючы рэальнага месца жыхарства, Ігар Шэшка выехаў на працу за мяжу. Ягоную летнюю кухню, у якой можна было жыць, улады знеслі разам з дашчаным хлеўчыкам. Засталася толькі напаўразваленая драўляная хата, у якую небяспечна ўваходзіць, а таксама маленькі цагляны хлеўчык, які разбураецца на вачах.

Даверaная асоба Шэшкі **Віктар Андрэеў** распавёў, што ўлады, калі зносілі летнюю кухню, нічога не паведамілі аб гэтым ні гаспадару, ні яму, хаця ведалі аб тым, што ён з'яўляецца даверанай асобай уласніка домаўладання, і мелі ўсе яго кантакты.

"Пасля таго як летняя кухня была знесена, зніклі і будматэрыялы, якія там знаходзіліся. Шэшка набываў іх з мэтай адрамантаваць кухню", – распавядае Андрэеў.

Ён таксама ставіць пад сумнеў правамоцнасць вок аддадзенага загада на знос пабудовы. У прыватнасці, Андрэеў аргументуе гэта тым, што Гродзенскі гарвыканкам, выдзяляючы Шэшку яшчэ ў 2014 годзе надзел зямлі для абслугоўвання домаўладання, ведаў, што на тэрыторыі не было ніякіх самавольна ўзведзеных будынкаў, а знаходзіліся толькі тыя, якія значыліся ў ведамасці тэхнічных характарыстык, якая, дарэчы, складалася ў 2010 годзе.

Андрэеў пераканаты, што калі б у той час такія будынкі былі, то рэакцыя на іх з'яўленне праявілася б адразу. Але іх, паводле слоў Андрэева, не было, і пазней яны не з'явіліся. Хлеў папросту быў перапрацаваны ў летнюю кухню, якая стала прыдатнай для таго, каб там мог жыць чалавек. Але ніхто з чыноўнікаў не хацеў пагледзець у ведамасць тэхнічных характарыстык, каб пераканацца, што ніякага самавольнага будаўніцтва на тэрыторыі домаўладання не вялося.

Чарговую скаргу Ігар Шэшка накіраваў на імя старшыні аблвыканкама, апісаўшы ў ёй усё, што адбылося з ім і ягоным домаўладаннем, а ў адказ атрымаў ужо знаёмы тэкст, які знаў з лістоў адміністрацыі Ленінскага раёна і Гродзенскага гарвыканкама.

Ігар Шэшка пасля гэтага звярнуўся ў суд. Разгляд справы адбываўся без яго, паколькі ён працаваў за мяжой, суд заняў бок гродзенскіх чыноўнікаў.

На тле ўсіх гэтых падзей цікавым выглядае факт, што ў 2017 годзе Віктара Андрэева, прадстаўніка Шэшкі па даверанасці, адшукалі работнікі "Спецаўтагаспадаркі" і паставілі перад фактам, што домаўладальнік па адрасе Мелавыя горы, 14 мусіць заключыць з імі дамову на вываз смецця. Дамову са згоды Шэшкі Андрэеў заключыў. І, хоць ніякага смецця на сваім домаўладанні гаспадар не пакідае, ён кожны месяц дасылае з-за мяжы грошы, каб аплачваць паслугі, якія ніхто яму не аказвае.

## Ліст да Лукашэнкі як апошняя надзея

Чарговы зварот Шэшка напісаў на імя Аляксандра Лукашэнкі. Да ліста кіраўніку дзяржавы прыклаў здымкі свайго домаўладання да 2016 года і цяперашнія, дзе на месцы будынкаў домаўладання (летняй кухні і дашчанага хлява) парос бур'ян, дзікі хмызняк і трава.

Віктар Андрэеў, прадстаўнік Шэшкі па даверанасці, кажа, што домаўладальнік і зараз знаходзіцца за мяжой, бо папросту не мае куды вярнуцца.

"Уявіце сабе сітуацыю: чалавек зарэгістраваны па адрасе, але не мае дзе жыць, – распавядае Андрэеў. – Вось у такой сітуацыі зараз знаходзіцца і Шэшка. Яму хочацца вярнуцца дамоў, але куды? Усе спадзяванні на тое, што ў Адміністрацыі Прэзідэнта сумленна ва ўсім разбяруцца".

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

ДЫЯЛОГІ

# Міхась СКОБЛА – Павел БЕРАГОВІЧ

# «Беларусь – далёка не рай зямны, але гэта краіна, дзе дыхаецца лягчэй»

*Расійскі бізнесмен Павел Бераговіч – заўжды жаданы госць у Беларусі. Колькасць падтрыманых ім культурніцкіх праектаў ужо ідзе на дзясяткі. Адных толькі штогадовых літаратурных прэмій пры яго дапамозе заснавана тры – імя Максіма Багдановіча (для маладых літаратараў), імя Цёткі (за творы для дзяцей), імя Карласа Шэрмана (для перакладчыкаў). А яшчэ створаны ім фонд «Вяртанне» аднаўляе старадаўні маёнтак у мястэчку Падароск, дзе плануецца адкрыць музей ліцвінскай шляхты. Якія сцежкі прывялі ўральскага хлопца на беларускі шлях – Павел расказаў у рэдакцыі «Народнай Волі».*

## «На школьных дэманстрацыях я заўсёды выбіраў несці сцяг Беларусі»

**– Павел, вы падтрымліваеце выданне беларускіх кніг, з вашым чынным удзелам заснаваны тры літаратурныя прэміі, дзякуючы вам шмат што адбываецца ў беларускай прасторы. Але сам вы – рускі, нарадзіліся на Урале. Здаецца, толькі бабуля ў вас была беларуска?**

– Так, беларуская лінія майго радаводу ідзе ад бабулі па маці – Ірыны Фёдараўны Бераговіч, якая нарадзілася ў 1911 годзе ў вёсцы Варкі каля Чашнікаў. Яна мяне фактычна і выхавала, бо бацькі працавалі з раніцы да вечара. Дзед быў родам з Валагодчыны і ў канцы 1920-х гадоў прыехаў у Беларусь служыць у чыгуначных войсках. Расказваў, што хадзіў з вайсковай часці ў Варкі па самагонку. Там і пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай, яны пабраліся шлюбам. Бабуліна сям'я жыла вельмі бедна. Малая Ірына нават школу вымушана была кінуць. Справа ў тым, што ў школьнай печцы не было чым паліць, і адміністрацыя збірала дровы з вучняў. І вучні насілі па чарзе. А ў Бераговічаў у саміх тых дроў не было. Бабуля адвучылася тыдні тры ў першым класе, і прыйшла яе чарга несці дровы. А іх няма. І настаўнік выправіў яе з класа. Больш бабуля ў школу не хадзіла. Распісацца толькі ўмела.

**– А як вашы дзед з бабуляй трапілі на Урал?**

– Дзед усё жыццё працаваў на чыгунцы. Перад самай вайной яны з бабуляй пераехалі ў Карэлію, у Петразаводск. А калі пачалася вайна, дзеда прызвалі на фронт, дзе ён неўзабаве быў цяжка паранены, яго камісавалі. І яны былі эвакуіраваны на Урал. Дзе я і нарадзіўся ў 1968 годзе – у горадзе, які цяпер называецца Снежынск, а за савецкім часам быў Чалябінскам-70, закрытым цэнтрам атамнай прамысловасці. Там працавалі мае бацькі. Калі мне споўнілася тры гады, мы пераехалі ў Свярдлоўск, і ўсё маё далейшае жыццё было звязана з гэтым горадам.

**– Дык адкуль у вас з'явілася цікавасць да Беларусі? Ад бабулі?**

– Бабуля размаўляла са мной па-руску, але з вельмі моцным беларускім акцэнтам. Гаварыла, напрыклад: *калідор*. Памятаю, калі нешта малаверагоднае чула па тэлевізары, то адгукалася: «*Ай, выдумляюць рознага чорта!*». Гэта было першым штуршком да разумення, што я хоць з Урала, але не зусім уралец.

**– І ў якім узросце «не зусім уралец» адчуў свае беларускія карані?**

– Калі быў курсантам ваеннага вучылішча. Школьнікам я, вядома ж, ведаў, што ёсць саюзныя рэспублікі, але чамусьці думаў, што там жывуць такія ж людзі, як і ў Свярдлоўску, і размаўляюць усе па-руску. Ведаючы пра Беларусь трохі больш ад бабулі, я на школьных дэманстрацыях заўсёды выбіраў сцяг Беларусі. І хоць гэта быў сцяг савецкай Беларусі, мне было прыемна несці менавіта яго. Але тады я ўсё роўна думаў, што ўсе рэспублікі аднолькавыя. І толькі ў ваенным вучылішчы ў 1985 годзе я ўпершыню пабачыў, што ў СССР жывуць розныя народы. Там вучыліся і ўкраінцы, і беларусы, і туркмены... І калі я ўжо служыў маладым лейтэнантам, то таксама атрымліваў першыя ўрокі нацыянальнага выхавання. Найперш ад украінцаў. Мяне заўсёды здзіўляла, з якой павагай яны ставяцца да сваёй радзімы. Вядома ж, савецкае войска было і школай інтэрнацыяналізму, але, як гэта ні парадаксальна, менавіта там можна было ўбачыць, што савецкая імперыя складаецца з розных, не падобных між сабой, народаў.

## «Беларускую мову вывучаў па лістах Барадуліна і Быкава»

**– А дзе вы ўпершыню пачулі беларускую мову?**

– У тым жа ваенным вучылішчы, дзе займаліся хлопцы з Дзятлава, з Мінска, з Баранавічаў, з Ліды. Помню, я тады адчуваў, што яны сапраўдныя беларусы, а я проста маю нейкае дачыненне… Потым, калі я пакінуў войска і пачаў займацца бізнесам, то мая сувязь з Беларуссю амаль страцілася. Яна аднавілася выпадкова, калі я ў сецціве пачаў раз-пораз трапляць на нейкія беларускія сайты. Паступова паспрабаваў чытаць беларускія кнігі, якія мне дасылалі па маёй просьбе. Першай маёй беларускай кнігай быў зборнік перапіскі Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна «Дажыць да зялёнай травы», укладзены Сяргеем Шапранам. Дарэчы, ён – выдатны даследчык і проста не можа нешта зрабіць кепска. Імя Шапрана на вокладцы кнігі – гэта ўжо гарантыя якасці. Так што мову мне прыйшлося вывучаць па лістах Барадуліна і Быкава…

**– То ў вас быў самы незвычайны буквар! Наўрад ці нехта яшчэ вывучаў беларускую мову па лістах, хай сабе і такіх выдатных пісьменнікаў, як Быкаў і Барадулін.**

– Так, па лістах і вершах. І калі я пабачыў, што трэць тэкстаў проста не разумею, то папрасіў, каб мне даслалі руска-беларускі слоўнік. Але ён таксама не вельмі дапамог. А загаварыць па-беларуску я паспрабаваў толькі ў 2010 годзе, калі ўпершыню прыехаў у Беларусь па запрашэнні Уладзіміра Арлова. Спачатку ён мяне праз слова папраўляў... Мне і цяпер бракуе моўнай практыкі. Калі прыязджаю ў Беларусь, гляджу «Белсат» і слухаю радыё – вось і ўся мая школа.

## «У музеі шляхты будзе адбывацца своеасаблівае пасвячэнне ў беларусы»

**– Некалькі гадоў таму вы набылі старую сядзібу ў Падароску на Ваўкавышчыне, якую мяркуеце аднавіць. Ці штосьці там ужо робіцца?**

– Шмат часу давялося затраціць на ўзгадненне праекта з Міністэрствам культуры, з мясцовымі ўладамі. Бо сядзіба ў Падароску – гісторыка-культурная каштоўнасць II катэгорыі. І цяпер нарэшце мы распачалі будаўнічыя работы. Ужо да зімы плануем скончыць кавярню і сувенірную краму. Прычым крама і кавярня будуць мець такі шляхецкі накірунак.

**– А чаму вы выбралі менавіта Падароск? Усё ж 250 кіламетраў ад сталіцы.**

– Сядзіба ў Падароску някепска захавалася ў параўнанні з іншымі. Паводле зацверджанай у Мінкульце канцэпцыі, мы павінны зрабіць сваю працу за некалькі этапаў. Падароск – невялікае мястэчка паміж Ружанамі і Ваўкавыскам. Калі едзеш па гэтай дарозе, то няма дзе спыніцца, каб папіць кавы і адпачыць. Таму найпершая мэта – зрабіць на тэрыторыі сядзібы пункт прыдарожнага сэрвісу. Наступны этап – пабудаваць невялікі гатэль. А трэці і апошні этап – музей шляхты.

**– Такіх у Беларусі, здаецца, яшчэ няма. А якім той музей бачыцца вам у далёкасяжных марах?**

– Спадзяюся, што гэта не вельмі далёкасяжныя мары. Можна было б зрабіць у Падароску музей гісторыі сядзібы, тых людзей, якія там жылі. Але гэта не зусім тое, што я хачу. Мне здаецца, што беларусам не хапае ведаў пра шляхту. Шляхта ў Беларусі і сёння выглядае як нейкая чужая з'ява, больш характэрная для Польшчы ці Літвы. Вось я і хачу паказаць у музеі, што шляхта – эліта грамадства. І пакуль мы ўсе не зразумеем, што шляхта – гэта таксама беларускі народ, датуль нас не пакіне адчуванне ўласнай непаўнацэннасці. Як там у савецкіх падручніках пісалі: беларусы – сялянскі народ, прыгнечаны панамі-чужынцамі, і г.д. Але гэта не так. Беларуская шляхта існавала. Возьмем, напрыклад, такія прозвішчы, як Валовічы, Абуховічы, Сапегі, Радзівілы. Гэта ж мясцовага паходжання людзі. Яны нарадзіліся на беларускай зямлі, яны заўсёды разглядалі сябе асобна ад той жа Варшавы (калі браць перыяд Рэчы Паспалітай), змагаліся за свой Край са зброяй у руках. І таму заслугоўваюць нашай удзячнай памяці.

**– Я нядаўна пабываў у Нясвіжы, у адноўленым радзівілаўскім палацы. Прызнацца, ягоная раскоша неяк мяне агаломшыла. Гетманская зала, паляўнічая зала, дубовая мэбля…**

– Музей шляхты ў Падароску не будзе установай, дзе стаяць шафы з экспанатамі. Я хачу, каб ён даваў першы штуршок наведнікам – самім шукаць сваю гісторыю. Мне хочацца, каб у будучым музеі адбывалася своеасаблівая ініцыяцыя чалавека, ягонае пасвячэнне ў беларусы. Каб чалавек, трапіўшы ў музей, апынаўся пад інфармацыйным, эмацыйным уздзеяннем і адчуў штосьці новае ў сабе, задумаўся пра тое, хто ён, што ён робіць у гэтай краіне. Каб ён увогуле адчуў Беларусь як сваю краіну. Я разумею, што гэта гучныя словы, але менавіта такім мне бачыцца музей шляхты.

**– А вы не баіцеся, што такі музей можа камусьці ў Беларусі не спадабацца? Прыедзе які-небудзь чыноўнік і звінаваціць вас у перакручванні гісторыі.**

– Нават калі дзяржава той музей у мяне забярэ, то не спаліць жа яна і не ўзарве тую сядзібу. Сядзіба ў Падароску налічвае ўжо 500 гадоў. Яна перажыла войны, паўстанні, каралёў, расійскіх імператараў, фашыстаў, камуністаў – перажыве і ўсіх іншых.

**– Вашым «букваром» стала перапіска Быкава з Барадуліным. А чым вы сёння пашыраеце свой беларускі светапогляд?**

– Найперш чытаннем кніг. З задавальненнем чытаю гістарычную і краязнаўчую літаратуру. Цяпер вывучаю выдатнае даследаванне Адама Мальдзіса «Як жылі беларусы ў XVIII стагоддзі». Зрэдку слухаю беларускія песні. Мне вельмі падабаецца гурт Vurai Сяргея Доўгушава. Таксама гурт Shuma слухаю рэгулярна, Лявона Вольскага (праўда не ўсё мяне ў яго творчасці захапляе, але ёсць песні проста выдатныя).

**– Ужо гадоў восем з вашай падтрымкай існуе Літаратурная прэмія «Дэбют» імя Максіма Багдановіча, якую атрымліваюць маладыя літаратары, аўтары першых кніжак. Ці сочыце вы за далейшым лёсам «сваіх» лаўрэатаў?**

– Па меры магчымасці. Мне вельмі прыемна, што ўсе яны адбыліся ў літаратуры. Напрыклад, адну з першых прэмій за прозу атрымаў Віктар Марціновіч. Нядаўна выпусціла сваю другую кнігу Юлія Шарова. На слыху імёны Уладзя Лянкевіча, Андрэя Адамовіча, Міхала Бараноўскага…

**– Ніводзін лаўрэат вас не расчараваў?**

– Ніводзін. Праўда, я лічу сябе малакампетэнтным у літаратуры чалавекам. Каб атрымаць нейкі досвед, застаюся ў журы «Дэбюту». Мне проста цікава слухаць, як старэйшыя літаратары абмяркоўваюць творы маладых. Помніцца, як Генадзь Мікалаевіч Бураўкін ледзь не ўчыніў як сябра журы дэмарш. Бо ў творах аднаго з нашых лаўрэатаў, Андрэя Адамовіча, сустракалася нецэнзурная лексіка. І Бураўкін не мог гэтага прыняць. Дзякуй Богу, усё скончылася добра, ён урэшце пагадзіўся з рашэннем журы.

## «Укладанне грошай у беларускую культуру – справа не марная»

**– Павел, каб нашы чытачы больш пэўна ўяўлялі сабе заслугі Бераговіча-мецэната, я проста пералічу здзейсненае з вашай дапамогай. Найперш штогадовыя прэміі – тры імя Багдановіча (кожная – па 2000 долараў), дзве імя Цёткі (па 2000 долараў пісьменніку і мастаку), прэмія для перакладчыкаў імя Карласа Шэрмана (пераможца атрымлівае таксама 2000). Далей – два тамы бесцэнзурнага Васіля Быкава, пасмяротныя кнігі Рыгора Барадуліна і Генадзя Бураўкіна, вялікая кніга «Айчына: маляўнічая гісторыя ад Рагнеды да Касцюшкі» Уладзіміра Арлова і Паўла Татарнікава, музычны конкурс «Заспявай.by», шыкоўны англійскамоўны фаліянт «Вялікае Княства Літоўскае» таго ж Арлова, «Падарожжы дылетанта» Юрыя Жыгамонта… Але, перш чым выдаткаваць на нейкія праекты грошы, іх жа неабходна зарабіць. Можаце расказаць пра свой бізнес?**

– Мушу толькі ўдакладніць, што пералічаныя вамі праекты – заслуга не асабіста мая, а фонду «Вяртанне». Што да бізнесу, то мы з сябрамі пачалі ім займацца на пачатку 1990-х гадоў. Спачатку гэта быў бізнес, звязаны з прыватызацыяй і стварэннем фондавага рынку. Наша кампанія існуе і цяпер, я там не аперацыйны кіраўнік, не дырэктар, але ўваходжу ў назіральную раду. Мы займаемся стратэгічнымі пытаннямі развіцця бізнесу. А кампанія займаецца абсталяваннем для энергетычных прадпрыемстваў, будаўніцтвам ліній электраперадач, трансфарматарных падстанцый.

**– На будаўніцтве Астравецкай АЭС вам не знайшлося працы?**

– Там працуюць нашы партнёры, з якімі мы вельмі шчыльна супрацоўнічаем. У нас некалькі прадпрыемстваў на Урале – частка ў Екацярынбургу, частка на Паўднёвым Урале. Ёсць прадпрыемствы ва Украіне, у еўрапейскіх краінах.

**– А чаму вы ўсё ж вырашылі ўкладаць грошы туды, адкуль яны не вяртаюцца? У бізнесоўцаў гэта, здаецца, не прынята.**

– Ну, не ўсё так безнадзейна выглядае. Укладанне грошай у беларускую культуру – справа не марная. Пры пэўных абставінах нават можна разлічваць на тое, што грошы вернуцца. Так, беларуская справа таксама можа быць прыбытковай. Для мяне гэта даўно вырашана: калі я магу дапамагчы пашырыць беларускую прастору, то я павінен гэта рабіць. Тая ж прэмія «Дэбют» – падтрымка маладых пісьменнікаў, яна даецца за першую кнігу, выдадзеную па-беларуску. Як там далей іх лёс складзецца – залежыць ад іх саміх. А наша задача – падтрымаць творцаў на пачатку шляху.

**– У «Фэйсбуку» я часам бачу вашага сына ў бел-чырвона-белай бейсболцы. А ён ужо неяк нацыянальна вызначыўся?**

– Пакуль што сын дакладна ведае, што бацька ягоны – беларус. Ён бачыць, што я чытаю беларускія кніжкі, час ад часу пытаецца ў мяне пра нешта. Я не прымушаю яго размаўляць са мною па-беларуску, не праводжу з ім урокаў беларускай мовы. Але калі ён пераканаецца, што беларуская справа мяне шчыра захапляе, то і яму будзе гэта цікава. Сын ужо падлетак, пачынае разумець, што да чаго. Я звярнуўся да беларушчыны, калі мне быў 41 год, думаю, у яго гэта адбудзецца значна раней. З цягам часу сын, спадзяюся, мяне падтрымае. А жонка мяне ўжо цяпер падтрымлівае.

## «Расія была і застаецца імперыяй, і гэта накладае моцны адбітак на людзей»

**– Ваша сям'я жыве ў Таліне. А чаму для пражывання вы выбралі сталіцу Эстоніі?**

– Гэта было даволі складанае рашэнне, якое я прымаў даволі доўга. Мне вельмі не падабаецца тое, што сёння адбываецца ў Расіі, у якім кірунку ўсё ідзе. Праўда, я не раблю ніякіх радыкальных крокаў, езджу ў Расію – там жывуць мае бацькі, сястра, сябры, там мой бізнес. А Талін узнік выпадкова. Там жыве мой даўні сябар па ваенным вучылішчы, ён мяне і ўгаварыў. Спачатку ў Эстонію пераехала сям'я, а за ёю і я. Гэта адбылося ў 2007–2008 гадах.

**– А ў Мінск на сталае жыхарства перабрацца жадання няма?**

– Гэта даволі складана зрабіць. У Таліне ў нас дом, там вучыцца сын, жонка там, праца там. Зрэшты, я не бачу вялікай розніцы паміж Расіяй і Беларуссю. Ну хіба заўважаецца адрозненне ў менталітэце. Расія ўсё ж была і застаецца імперыяй, і гэта накладае моцны адбітак на людзей. У Беларусі нічога падобнага няма, тут стасункі наладзіць прасцей. Але, па вялікім рахунку, сістэма там і тут працуе аднолькава. Таму я і выбраў для жыцця Еўрасаюз.

**– Вы больш за сорак гадоў пражылі ў Расіі. Ці можаце растлумачыць, што такое «русский мир», якому цесна на абшары ад Сахаліна да Калінінграда?**

– Паспрабую растлумачыць. Нядаўна мне трапілася на вочы выказванне Пятра Чаадаева, не самага апантанага расійскага імперыяліста. Ён пісаў: «Мы павінны раскінуцца ад берагоў Берынгавай пратокі да Одэра, каб нас прыкмецілі». Разумееце, гэта мегаламанія, гэта як псіхічная хвароба. Можна сказаць, што «русский мир» – гэта дыягназ. Прыгадваецца яшчэ, як у адной з тэлеперадач артыст Юрый Стаянаў распавядаў пра сумесныя гастролі з Міхаілам Жванецкім. Селі яны ў самалёт, і Жванецкі, гледзячы ў ілюмінатар, кажа: «Вялікая краіна Расія. Выйшаў у поле – сеў, пас…ў, прайшоў кіламетр – зноў сеў, прайшоў яшчэ кіламетр – зрабіў тое самае. А Швейцарыя – краіна маленькая: пас…ў – прыбраў». Вось вам адно з тлумачэнняў «рускога мира». Хоць існуюць і іншыя. Хтосьці тлумачыць імкненне пашыраць тэрыторыі кампліментарна: маўляў, рускія заўсёды імкнуліся сысці ад сваёй дэспатычнай улады, таму ўцякалі ад Масквы ўсё далей і далей. Жыць на адным месцы і ўдасканальваць яго рускім нецікава. Таму і бардак па ўсёй краіне. Да таго ж у Расіі хлусня проста ўзведзена ў абсалют. Прычым усе ведаюць, што ўлада хлусіць, і ўсіх гэта задавальняе, ніхто не пярэчыць. Для мяне такое стаўленне да жыцця проста незразумелае. Таму мы і з'ехалі з Расіі, я там проста не магу жыць.

**– Але вы застаяцеся расійскім грамадзянінам. Душой, наколькі я зразумеў, вы даўно ў Беларусі. А ці няма ў вас намеру прыняць беларускае грамадзянства?**

– Прызнаюся: ёсць такая думка. Шукаючы ў архівах звесткі па сваім радаводзе, я думаю, што яны мне могуць спатрэбіцца – пры атрыманні беларускага грамадзянства. Ёсць у мяне пэўная жыццёвая праграма, і беларускі пашпарт у ёй значыцца. Магчыма, ён некалі заменіць мой расійскі пашпарт. Цяпер я працягваю расшукваць дакументы, датычныя маёй беларускай бабулі. Разумею, што Беларусь – далёка не рай зямны, але гэта краіна, у якой я адчуваю сябе ўтульна і дзе мне ўсё ж дыхаецца лягчэй.

## ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО



На пытанні чытачоў адказвае старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства абароны правоў спажыўцоў» Васіль ВАЛАСЮК.

### Згубілі зараднае прыстасаванне

*Аддалі ў рамонт планшэт разам з зарадным прыстасаваннем. Пасля рамонту планшэт аддалі, але без зараднага. Сказалі, што, маўляў, яго і не было. Што рабіць?*

**Аляксандр ВЫШЫНСКІ, г.Полацк.**

– Заяўляйце прэтэнзію на майстэрню з патрабаваннем вярнуць зараднае прыстасаванне. Уважліва праглядзіце квітанцыю, якую вам далі пры здачы тавару. Звычайна там указваецца, у якой камплектацыі быў прыняты планшэт.

### На крэсле выцерлася абшыўка

*Пяць месяцаў таму набылі крэсла з абіўкай з натуральнай скуры, але зараз яна вельмі моцна выцерлася. Ці можна вярнуць крэсла назад у магазін?*

**Сямён АБРАМОВІЧ, г.Барысаў.**

– Можна, бо ў працэсе выкарыстання тавару праявіліся дэфекты няякаснай афарбоўкі. Гэта вытворчая недапрацоўка.

### У ботах, як на лыжах

*Набыла на восень боты. Аказалася, што падэшва пластмасавая, ногі слізгаюць па мокрым асфальце. Коўзаюся ў гэтых ботах, як на лыжах. Ці можна вярнуць абутак прадаўцу як тавар неналежнай якасці?*

**Валянціна ГРЫНЕВІЧ, г.Жодзіна.**

– Так, боты можна замяніць. Але ў гэтым выпадку спажыўцу, думаю, лепей забраць грошы.

### Забыліся пра прынтар?

*Аддаў прынтар у рамонт паўтара месяца таму, але да гэтага часу яго не адрамантавалі. Ці ёсць нейкі максімальны тэрмін на ліквідацыю недахопу?*

**Андрэй ЛАБКОВІЧ, Гродна.**

– На рамонт адводзіцца тэрмін у 14 дзён. Зараз вы маеце поўнае права выставіць пісьмовую прэтэнзію з патрабаваннем выканаць рамонт.

### Машынка для стрыжкі вырывае валасы

*Набыў машынку для стрыжкі валасоў, але не спадабалася, як яна працуе. Мне падаецца, машынка не павінна вырываць валасы пры стрыжцы. Ці можна яе вярнуць назад на працягу 14 дзён?*

**Віктар ПІНЧУК, г.Вілейка.**

– Можна.

### Не пашэнціла з гадзіннікам

*На рынку набыў кітайскі гадзіннік, а ён ужо праз тыдзень зламаўся. Ці можна вярнуць тавар прадаўцу?*

**Андрэй ВЛАДЫКА, г.Клімавічы.**

– Безумоўна. З касавым чэкам ідзіце да прадаўца і забірайце грошы.

### Купілі няспраўную цацку

*Радыёкіруемы верталёт, які набылі на рынку, дома ў літаральным сэнсе загарэўся ў паветры. Прынёс на рынак назад, мне сказалі, што такога быць не можа, каб цацка загарэлася… І, натуральна, адмовіліся вяртаць грошы і забіраць сваю «цуд-тэхніку». Што зараз рабіць?*

**Віталь ПАТУПЧЫК, г.Маладзечна.**

– Звярніцеся да экспертаў, яны ўстановяць, чаму загарэўся ваш верталёт. А пасля заключэння ўжо зноў звяртайцеся да таго, хто вам прадаў цацку.

